Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 11 620.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск, вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 23 студзеня 1998 г. | № 4 | Кошт 3 000 руб.

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

# Шарамету – тры гады, Завадскаму – два

*Столькі просіць пракурор. Праўда, з адтэрміноўкай выканання прысуду*

**У працэсе над журналістамі ОРТ, якія праходзіць у Ашмянах, нечаканы перапынак.**

У сераду ў суд не прыехаў Павел Шарамет — ён захварэў, што пацвярджалася даведкай, прывезенай адвакатамі. Суддзя Віталь Казакевіч быў вымушаны перанесці паседжанне на 27 студзеня. Было добра бачна, што рабіў ён гэта без асаблівага задавальнення.

А днём раней здавалася, што працэс фінішуе ўжо ў сераду. Такі прагноз выглядаў верагодным таму, што на паседжанні ў другой палове аўторка была завершаная перадапошняя стадыя працэсу — судовае расследаванне — і суддзя абвясціў пачатак спрэчак бакоў. І яны пачаліся — нягледзячы на пратэсты абароны, якая ўказвала на адсутнасць аднаго з адвакатаў. Пры гэтым абарона спасылалася на артыкул 250 крымінальна-працэсуальнага кодэксу, які забараняе пераходзіць да спрэчак, не апытаўшы ўсіх абаронцаў. Аднак суддзя Казакевіч гэтыя аргументы адхіліў і перадаў слова пракурору Уладзіміру Сідо.

Пракурор паўтарыў ранейшыя абвінавачванні і папрасіў суд даць Паўлу Шарамету тры гады турмы, а Дзмітрыю Завадскаму — два, але з адтэрміноўкай (абодвум) выканання прысуду на адзін год. Калі суд прыслухаецца да пракурора і прыме такое рашэнне, то Шарамет і Завадскі апынуцца ў стане рыбаў, падчэпленых на кручок, але не выцягнутых з вады: нават адміністрацыйнае парушэнне, зробленае імі на працягу года, стане для іх прычынай пападання ў турму на тэрмін, прызначаны судом.

Можна чакаць, што рашэнне суда будзе вынесенае ўжо на наступным тыдні. Цяжка прагназаваць, якім будзе гэты прысуд. На думку назіральнікаў, суд меў намер завяршыць працэс на гэтым тыдні, што было звязана з маскоўскай сустрэчай Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі, запланаванай на 22 студзеня. Выказваліся меркаванні, што беларускі прэзідэнт быў бы вельмі зацікаўлены прыехаць у Маскву ўжо пасля вынясення прысуду, каб у Ельцына не ўзнікала падставаў вяртацца да «справы Шарамета», якая доўгі час азмрочвала адносіны «саюзнікаў». Калі гэта сапраўды так, то даводзіцца канстатаваць, што гэтыя планы сарвала нечаканая хвароба Паўла Шарамета. Таму цяпер не выключана, што пасля візіту ў Маскву ранейшая «устаноўка» на прысуд можа быць значна скарэктаваная.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



*Пакуль міліцыянты ставяцца да Паўла Шарамета як да падсуднага. Як будзе праз тыдзень?*

## Пупейка выйшаў на волю

**Вядомы беларускі бізнесмен Аляксандр Пупейка, былы прэзідэнт фірмы «Пушэ», выпушчаны з-пад варты.**

У сераду ваяводская пракуратура ў Варшаве разгледзела хадайніцтва адвакатаў і замяніла арышт на падпіску аб нявыездзе з тэрыторыі Польшчы, паведамляе агенцтва *PAP*. За вызваленне Пупейкі ўнесены заклад у суме 100 тысяч злотых (каля 28.000 долараў), у пракуратуры адмовіліся назваць імя асобы, якая выступіла паручальнікам і заплаціла грошы.

Як вядома, Пупейка быў арыштаваны ў сярэдзіне снежня ў варшаўскім аэрапорце. Яго з падачы беларускай пракуратуры расшуквалі па каналах «Інтэрпола» па абвінавачанні ў невяртанні 500.000 долараў крэдыту. Улады Беларусі патрабуюць выдачы Пупейкі. Беларуская апазіцыя сцвярджае, што ўся гэтая справа мае палітычны характар: Пупейку пераследуюць за тое, што ў 1994 годзе ён адмовіўся фінансаваць выбарчую кампанію Лукашэнкі, а падтрымліваў дэмакратычныя сілы і незалежную прэсу.

Паводле польскіх законаў, рашэнне аб экстрадыцыі прымае суд. Калі суды ўсіх інстанцыяў згаджаюцца на выдачу затрыманага, канчатковае рашэнне прымае міністр юстыцыі (цяпер гэтую пасаду займае вядомы палітык Ханна Сухоцка, якая ўзначальвала польскі ўрад у часы прэзідэнцтва Валэнсы). У хуткім часе запыт беларускіх уладаў на выдачу Пупейкі будзе разглядаць Варшаўскі ваяводскі суд.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Каму належыць улада?

**Большасць апытаных сацыёлагамі людзей лічыць, што ўлада ў Беларусі належыць прэзідэнту і мафіі.**

Падчас нацыянальнага апытання, праведзенага напрыканцы 1997 года Інстытутам сацыяльна-палітычных даследаванняў пры адміністрацыі прэзідэнта, рэспандэнтам, у прыватнасці, задавалася пытанне «Каму цяпер належыць улада ў Беларусі?» Каля паловы рэспандэнтаў (49%) адказалі, што «ўлада належыць прэзідэнту». Наступная па колькасці група (20%) лічыць, што ўлада належыць карумпаваным структурам (мафіі). З тым, што ўлада належыць народу, пагадзіліся толькі 5 працэнтаў рэспандэнтаў.

*БелаПАН*

## Злачыннасць маладзее

**Крымінальная злачыннасць у Беларусі хутка расце і набывае вельмі грозныя маштабы.**

Летась, паводле звестак міністэрства статыстыкі, было зарэгістравана 128,4 тысячы злачынстваў — амаль на 1,5 тысячы больш, чым у 1996 г. Асабліва значны рост зафіксаваны сярод злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, — 140,7%.

Асаблівую трывогу выклікаюць цяжкія злачынствы — забойствы, згвалтаванні, цяжкія цялесныя пашкоджанні, грабяжы: агульная лічба летась вырасла да 52,9 тыс. і склала ажно 41% крыміналу.

Праваахоўныя органы выявілі ў мінулым годзе амаль 68 тысяч чалавек, якія ўчынілі злачынствы, з іх непаўналетнія склалі 11%, жанчыны — 21%. Назіраецца вельмі небяспечная тэндэнцыя: 51% тых, хто знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, — людзі ва ўзросце да 30 гадоў. А калі ўлічыць, што менавіта маладыя людзі найчасцей атрымліваюць пакаранне ўмоўна і адтэрміноўкі выканання прысуду, то становіцца відавочным: злачыннасць маладзее.

На сённяшні дзень у месцах пазбаўлення волі знаходзіцца 21 тысяча чалавек, якія ўчынілі злачынствы паўторна, з іх каля 30% — асабліва небяспечныя рэцыдывісты. Вышэйшай мерай (расстрэлам) у 1997 годзе быў пакараны 31 чалавек.

**Сяргей ЛІТВІН**
**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Забастоўка была эфектыўнай

**Працаўнікі рамонтна-будаўнічага прадпрыемства ў Ганцавічах абвесцілі бестэрміновы страйк, але цягнуўся ён нядоўга: праз шэсць дзён адміністрацыя задаволіла патрабаванні работнікаў.**

Нагадаем, што гэтае прадпрыемства належыць да камунальнай гаспадаркі райцэнтра Ганцавічы. 15 студзеня яны распачалі страйк, патрабуючы зарплаты, якая не выплачвалася з кастрычніка мінулага года. 20 студзеня на сход працоўнага калектыву з'явіліся намеснік старшыні райвыканкама В.Абламскі і кіраўнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада В.Бярко.

Дырэктара прадпрыемства Аляксандра Зайца адхілілі ад пасады, а адразу ж пасля сходу рабочыя атрымалі зарплату за кастрычнік, 21 студзеня быў сплачаны і доўг за лістапад. У бліжэйшыя дні адміністрацыя абяцае аддаць заробкі і за снежань.

Аднак адпаведныя органы не пакінулі без увагі арганізатараў акцыі пратэсту. Міліцыянты даставілі ў райаддзел унутраных справаў двух найбольш актыўных рабочых — удзельнікаў забастоўкі. Яны мелі гутарку з начальнікам РАУС, і ён, са словаў рабочых, з разуменнем паставіўся да прычын, якія прымусілі калектыў завода пачаць акцыю пратэсту, аднак папярэдзіў, каб яны «не паддаваліся на правакацыі».

*БелаПАН*

## Калі Расія не хоча – украінцы зробяць самі

**Украіна ў аднабаковым парадку правядзе дэлімітацыю ўкраінска-расійскай мяжы, калі Расія будзе зацягваць гэтае пытанне.**

Такую заяву зрабіў начальнік упраўлення краін СНД украінскага міністэрства замежных справаў Уладзімір Салавей. Ён таксама адзначыў, што вырашэнне пытання аб дэлімітацыі ўкраінска-расійскай мяжы «ідзе цяжка»: расійскі бок дагэтуль не зацвердзіў нават склад камісіі для правядзення перамоваў. У.Салавей нагадаў, што «ў свеце існуе практыка правядзення аднабаковай дэлімітацыі», — у прыватнасці, Расія такім чынам вызначыла сваю мяжу з Эстоніяй. У той жа час Украіна настроеная «цывілізавана вырашаць пытанне», падкрэсліў У.Салавей.

*БелаПАН — УНІАН*

## Маленькія радасці інтэграцыі дорага каштуюць

**Учора на Маскву накацілася чарговая хваля інтэграцыі: засядалі адразу два наддзяржаўныя органы — Вышэйшы савет саюза Беларусі і Расіі і Савет Расіі, Беларусі, Казахстана і Кіргізіі.**

Беларускія ўлады надавалі маскоўскаму саміту асаблівую значнасць. У сераду перад вылетам у расійскую сталіцу Лукашэнка сурова заявіў, што збіраецца нагадаць Ельцыну аб нявыкананых Расіяй дамоўленасцях. У планах Лукашэнкі таксама значыліся персанальныя сустрэчы з расійскім прэм'ерам Віктарам Чарнамырдзіным, прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам Назарбаевым і неафіцыйна — з мэрам Масквы Юрыем Лужковым. Аднак афіцыйны Крэмль вырашыў не надаваць вялікай увагі прыбыццю дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі. Відаць, ужо прызвычаіліся да частых і часам неспадзяваных візітаў беларускага госця і не ўспрымаюць яго як прэзідэнта асобнай дзяржавы. Так ці інакш, у аэрапорце Лукашэнку сустракаў толькі расійскі віцэ-прэм'ер Валерый Сяроў, а на флагштоку, у парушэнне дыпламатычнага пратакола, не быў узняты дзяржаўны сцяг Беларусі.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта Інтэрфакса, Лукашэнка сказаў, што пryляцеў у Маскву, каб паглядзець у вочы Барысу Ельцыну і даказаць усім, што беларуска-расійскі саюз жыве і дзейнічае. Аднак проста з аэрапорта Лукашэнка паехаў глядзець у вочы Чарнамырдзіну, з якім абмяркоўваў двухбаковыя эканамічныя адносіны і праект саюзнага бюджэту на 1998 год. Агульная сума бюджэту, які будзе фармавацца на бездэфіцытнай аснове, складае 585 мільёнаў дэнамінаваных расійскіх рублёў (каля 100 мільёнаў долараў). Прычым 65% бюджэту забяспечыць Расія і 35% — Беларусь.

У чацвер раніцай Лукашэнка паўгадзіны размаўляў сам-насам з расійскім прэзідэнтам, пасля чаго Ельцын заявіў, што ўсе праблемныя пытанні паміж Расіяй і Беларуссю знятыя. Ельцын даў зразумець, што галоўнай праблемай перамоваў двух прэзідэнтаў была сітуацыя вакол суда над журналістамі ОРТ Паўлам Шараметам і Дзмітрыем Завадскім. Але ці выканае Лукашэнка дасягнутыя ў Маскве дамоўленасці?

На паседжанні савета беларуска-расійскага саюза быў таксама зацверджаны бюджэт, прынятае рашэнне аб заснаванні агульнай тэлекампаніі і пакет дакументаў, што тычацца знешняй і абароннай палітыкі, барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. Лукашэнка радасна заявіў: *«Упершыню з моманту стварэння саюза мы пасапраўднаму задаволеныя і шчаслівыя тым, як развіваецца інтэграцыя».*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**СВАБОДА НАВІНЫ**

**Як і раней, газета выходзіць кожны аўторак, сераду, пятніцу.**

**На наступным тыдні будзе абвешчаная падпіска.**

**Кожны тыдзень у НАВІНАХ праграма НТВ–плюс**

## Міцкевіча ў Гродне пакуль няма

**З 21 да 24 студзеня ў Гродне праходзяць Дні Адама Міцкевіча. Сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня яго нараджэння.**

У сераду ў гродзенскім палацы хімікаў некалькі соцень гараджан сабраліся, каб паслухаць пісьменнікаў і паэтаў, якія спецыяльна прыехалі з Мінска на Дні Міцкевіча. Свае слова сказалі Л.Баршчэўскі, В.Ракіцкі, У.Арлоў, Р.Барадулін і М.Скобла. Гродзенцы асабліва шкадавалі, што з-за хваробы не змог прыехаць Васіль Быкаў, якога чакалі найбольш. А госці бедавалі, што ў свеце існуе каля 50 помнікаў А.Міцкевічу, але найменш — у Беларусі, на яго радзіме.

Першы беларускі бюст Міцкевіча з'явіўся ў Брэсце ў 1965 годзе ў 100-ю гадавіну смерці паэта. Цяпер ёсць яшчэ бюст у Лідзе і помнік у Навагрудку. Сёлета плануецца паставіць бюст Адама Міцкевіча перад сядзібай саюза палякаў у Гродне, камень пад яго ўжо закладзены.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Лідэры БНФ у прыватным сектары

**У Гродзенскай вобласці лідэры БНФ распачалі серыю сустрэч з актывістамі і прыхільнікамі Фронту.**

Іван Саверчанка, Вячаслаў Сіўчык і кіраўнік Дэмакратычнага жаночага руху адраджэння айчыны Таццяна Ваніна пабывалі ў Навагрудку і мястэчку Любча. Улады ў апошні момант забаранілі праводзіць сустрэчу ў раённым клубе таварыства сляпых, і яна адбылася ў прыватным доме. У Любчы памяшканне арандаваць таксама не атрымалася, і сустрэча прайшла ў прыватнай майстэрні. Так што ўлады дапамаглі Фронту сэканоміць грошы на арэндзе.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Калгасная электрастанцыя на некалькі вёсак

**У Астравецкім раёне адбыўся пробны пуск першай турбіны Янаўскай электрастанцыі, яе моцы хопіць, каб асвятліць 3—4 невялікія вёскі.**

Станцыю мяркуюць запусціць пасля заканчэння веснавой паводкі. Дзве турбіны па 60 кілават, выробленыя ў Беларусі, будуць працаваць аўтаматычна, без абслугі.

Янаўская электрастанцыя была пабудаваная яшчэ ў 1956 годзе, а ў 1994 у выніку моцнай паводкі была разбураная. На аднаўленне пайшло каля 5 мільярдаў рублёў.

Летась па праграме малой энергетыкі ў Гродзенскай вобласці была ўжо рэканструяваная адна такая станцыя, у наступным годзе адновяць яшчэ дзве.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Прадаюцца ваенныя гарадкі

**На аўкцыёне ў Ваўкавыску зноў выстаўляліся аб'екты ваенных гарадкоў, але толькі тры з іх былі прададзеныя.**

Самым дарагім набыткам стала маёмасць былога гарадка № 1, якая была прададзеная па пачатковай цане — каля 310 млн. рублёў. Пакупнік знайшоўся толькі адзін. Тое ж самае здарылася і з ваенным свінарнікам, які адзіны пакупнік таксама здолеў атрымаць за пачатковы кошт — 107 млн. рублёў. Толькі ў адным разе адбыліся невялікія таргі, у якіх былі два ўдзельнікі. У выніку гараж для тэхнікі быў прададзены ў паўтара раза даражэй ад пачатковага кошту. Ніхто, аднак, так і не купіў цэлы ваенны гарадок № 13, які прадаваўся за 783 млн. рублёў. Улады спадзяваліся, што будучы гаспадар створыць там 10 новых працоўных месцаў.

Ваўкавыскія ўлады ўжо некалькі гадоў спрабуюць распрадаць аб'екты і маёмасць былых ваенных гарадкоў, якіх у даволі невялікім горадзе некалькі. Тэрміны аўкцыёнаў пастаянна пераносяцца, а пачатковы кошт аб'ектаў увесь час змяншаюць, каб прывабіць пакупнікоў, але іх знаходзіцца ўсё менш і менш.

**Алена ВІТУШКА**

## Абеды хутка скончацца

**Вось ужо трэці тыдзень 68 самых бедных жыхароў Мазыра бясплатна харчуюцца ў сталоўцы «Клопат».**

Абслугоўваюць іх па спецыяльных талонах, кожны абед каштуе 45 тысяч рублёў кожны. Грошы выдзеліла Міжнародная федэрацыя Чырвонага Крыжа. На жаль, праз некалькі дзён дабрачынная акцыя завяршаецца, маламаёмным зноў давядзецца сутыкнуцца з праблемамі фізічнага выжывання.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Да юбілея Машэрава

**Брэсцкія ўлады рыхтуюцца ў лютым шырока адзначыць 80 гадоў з дня нараджэння Пятра Машэрава.**

План святочных мерапрыемстваў з гэтай нагоды быў зацверджаны чыноўнікамі яшчэ летась, а нядаўна гарвыканкам Брэста прыняў рашэнне перайменаваць частку галоўнай магістралі горада — вуліцы Маскоўскай у праспект Машэрава. Праўда, спачатку ўлады хацелі надаць імя Машэрава вуліцы Камуністычнай, але пасля пратэстаў ветэранскіх і камуністычных арганізацыяў чыноўнікі былі вымушаныя адмовіцца ад «крамольнай» задумы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Вёсцы Горы - 500 гадоў

**Вёска Горы ў Горацкім раёне Магілёўскай вобласці мае багатую гісторыю і нядаўна адзначыла сваё 500-годдзе.**

500 гадоў таму Горы ўпершыню ўзгадваюцца ў летапісе, а археолагі ўстанавілі, што людзі тут пасяліліся значна раней. Навукоўцы знайшлі сляды вялікага паселішча X—XII стст. А з XV стагоддзя гэта было тыповае беларускае мястэчка. У 1619 годзе канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега нават выдаў Горам грамату на Магдэбургскае права.

**Іван ЗАСАДА**

# У Чыкіна службовы юбілей

**Споўніўся роўна год, як знакаміты камуніст Віктар Чыкін заступіў на пасаду віцэ-мэра г.Мінска. З нагоды службовага юбілею наш карэспандэнт пагутарыў з ім пра жыццё і справы.**

Цяпер 48-гадовы Чыкін, па ягоных уласных словах, *«працуе з насельніцтвам»*: курыруе аддзелы моладзі, грамадска-палітычнай інфармацыі, прызыўную камісію. Сярод шматлікіх службовых абавязкаў В.Чыкіна і сувязь з партыямі і рухамі. Фактычна менавіта ён — Віктар Чыкін — вызначае лёс масавых палітычных акцый у сталіцы (дазваляць ці не дазваляць). *«На мітынгі хаджу, як на працу»*, — кажа Чыкін.

*«Калі мяне прызначылі віцэ-мэрам, я быў задаволены,* — прызнаецца ён. — *Нечаканым гэта не было: чуткі хадзілі больш за год, і я быў гатовы».* Віктар Чыкін лічыць, што займець высокую пасаду яму дапамагла «ідэалагічная падрыхтоўка». *«Шукалі прафесіянала, і ў маёй асобе яго знайшлі»,* — без залішняй сціпласці кажа віцэ-мэр.

Мінск, па прызнанні Чыкіна, — ягоны любімы горад, тут ён нарадзіўся і вырас. Але адпачываць любіць на дачы. Больш за ўсё яго турбуюць дзве зацягнутыя будоўлі — дом на дачы, які ён будуе ўжо сем гадоў, і Палац Рэспублікі ў цэнтры сталіцы. Цікава, што ў камуніста Чыкіна жонка — прыватны прадпрымальнік. Праўда, з ёю, як і з сынам-студэнтам, ён бачыцца мала, — па ягоных словах, *«увесь час забірае праца віцэ-мэра і першага сакратара КПБ».* А сябруе Чыкін у асноўным «па партыйнай лініі».



Віктар Чыкін задаволены працай у мэрыі.

*«Я адзін у сям'і выродак-палітык, усе астатнія — мастакі»,* — нечакана рэзка выказаўся пра сябе Чыкін і патлумачыў, што ягоныя сёстры працуюць у мастацтве. Сам жа Віктар Чыкін, скончыўшы політэхнічны інстытут у 1971 годзе, пачаў кар'еру намеснікам камсамольскага сакратара інстытута, пад канец 90-х займаў пасаду другога сакратара Мінскага гаркама КПБ. Быў рэдактарам камуністычнай газеты «Мы и время», працаваў у прэзідэнцкім «Белінфармпрагнозе» і нарэшце ў студзені 97-га быў прызначаны намеснікам старшыні Мінгарвыканкама.

Асабліва цяжкой часткай сваёй працы Віктар Чыкін назваў зносіны з партыямі, тут у яго ёсць і сябры, і ворагі. Чыкін кажа, што ў яго ўсталяваліся «чалавечыя зносіны» з некаторымі апазіцыйнымі лідэрамі, але з кім — не паведаміў. *«Каб не перашкодзіць»,* — кажа Чыкін, але каму: «не перашкодзіць» — сабе ці апазіцыі — не ўдакладніў.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

# Такие люди - и за решеткой

*В следственный изолятор попал бывший руководитель Минского обкома КПБ*

Недавно был арестован Анатолий Бычек, принявший в свое время бразды правления Минского обкома КПБ от нынешнего спикера нижней палаты национального собрания Анатолия Малофеева. После восстановления КПБ и до сентября 1997 г. товарищ Бычек вновь возглавлял организацию областных коммунистов. Но минувшей осенью его спешно убрали, и, по словам руководителей ЦК КПБ, теперь о бывшем соратнике ничего в ЦК не знают. Не знают даже, где он живет.

А живет он ныне в СИЗО, куда попал по обвинению в крупных махинациях с белорусской тушенкой, которую поставлял в Россию. По некоторым данным, оборот сделки достигал около 3 млрд. белорусских рублей. Занимался бизнесом тов.Бычек, будучи на государственной должности. В последнее время он возглавлял управление по статистике и анализу Минской области. Но арестовали коммуниста только после того, как он подал заявление об уходе «по собственному желанию».

Что касается тушенки, то предполагается, что именно о ней недавно говорили некоторые российские военные. Они обижались, что в российскую армию из Беларуси попала большая партия непригодной для употребления в пищу тушенки с истекшим сроком годности.

Кстати, в «деле о тушенке» фигурируют и другие лица. Можно лишь догадываться, почему А.Бычека арестовали без такой шумихи, как некоторых других людей с положением. Но уж больно много оказывается людей, разным образом причастных к этому делу, которые облечены депутатскими полномочиями. Так можно и кворума в палатах лишиться.

**Борис ВЕСТНИК**
*(«Белорусская газета»)*

## Гарэлка: чакаецца падаражанне



**У хуткім часе чакаецца падаражанне гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў.**

Карэспандэнту НАВІНАЎ на вытворчым аб'яднанні «Мінсккрухмалпрам» патлумачылі: кошты на спіртныя напоі вырастуць таму, што дзяржава ў чарговы раз павышае акцызную стаўку на алкаголь. На сённяшні дзень у цане пляшкі гарэлкі акцызы складаюць каля 80%, але стаўка падатку будзе яшчэ павышаная. У выніку бутэлька белай падаражэе прыкладна на 8 тысяч. Гэтае пытанне цяпер разглядае ўрад, паведамілі ў дзяржкамітэце па цэнах.

Кошты на гарэлку не мяняліся з восені, аднак за гэты час падаражэў спірт — амаль на 20%. Прадпрыемствы ўжо не пакрываюць выдаткі на вытворчасць гарэлачных вырабаў, і гэта можа стаць дадатковай прычынай росту цэнаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Зарабіў -

**Да 15 лютага многія грамадзяне Беларусі павінны прадставіць у падатковыя інспекцыі дэкларацыі аб даходах за мінулы год. Гэта — адна з галоўных тэмаў гаворак у транспарце, на працы і дома, тым больш што развешаныя ў метро і проста на вулічных слупах паперкі-напамінкі пагражаюць карнымі санкцыямі. «Чаму мы павінны плаціць ізноў, калі з нас ужо вылічыла падаткі бухгалтэрыя?» — абураюцца людзі.**

### Прычыны і мэты

Сэнс дэкларавання даходаў можна зразумець з простага прыкладу. Дапусцім, два розныя чалавекі атрымліваюць аднолькавы гадавы даход — скажам, 36 мільёнаў рублёў кожны. Але першы зарабляе гэтыя грошы на адным месцы, а іншы, каб мець такую суму, працуе на дзвюх работах. Падаходны падатак, як вядома, вылічваецца па месцы працы бухгалтэрыяй, а стаўка залежыць ад сумы даходу. Прычым стаўка гэтая прагрэсіўная: чым большы даход, тым большы працэнт падатку. І можа атрымацца так, што ў чалавека, які мае два гадавыя заробкі па 18 мільёнаў, бухгалтэрыя возьме меншы падатак, чым у таго, хто атрымаў 36 мільёнаў у адным месцы.

З аднаго боку, гэта несправядліва, калі людзі з аднолькавым даходам плацяць розныя падаткі. З другога — вырашылі за кошт гэткіх рэзерваў павялічыць збор падаткаў. Колькі ад гэтага атрымае бюджэт, дакладна невядома. Існуюць самыя розныя прагнозы, называецца нават лічба ў 30 млн. долараў (уключаючы шматлікія штрафы і іншыя фінансавыя санкцыі). Па ацэнках гарадской падатковай інспекцыі Мінска, толькі ў сталіцы дадатковыя падаткі павінны будуць заплаціць каля 300.000 чалавек.

### Хто плаціць

Падаваць дэкларацыю павінны ўсе, хто мае больш аднаго месца працы (дадатковую крыніцу даходу). Напрыклад, неабходна дэклараваць свае даходы, калі вы маеце асноўнае месца працы і выконвалі ў 1997 годзе нейкую работу па дагаворы (праектную, даследчыцкую і інш.). Гэта ж тычыцца і людзей без пастаяннага месца працы, калі яны працавалі па дагаворы больш чым у адной арганізацыі або фірме.

У якасці дадатковай крыніцы даходу разглядаюцца таксама аперацыі з каштоўнымі паперамі, аўтарскія ўзнагароджанні (ганарары), а таксама даход, атрыманы за мяжой ці з-за мяжы — у апошнім выпадку ў дэкларацыі трэба ўказаць краіну і суму заплачанага там падатку. Падлягаюць дэклараванню таксама і каштоўныя падарункі, атрыманыя ў сувязі з працоўнай дзейнасцю (на-

## Пазьняк назваў Мірона чалавекам года

**Маецца на ўвазе той самы Мірон, які шмат разоў нелегальна вывешваў забаронены бел-чырвона-белы сцяг на самых высокіх кропках у Лёзна і Віцебску**

Гэтага чалавека ўжо трэці год спрабуе злавіць міліцыя, але не ўдаецца. Невядома нават ягонае сапраўднае прозвішча. Звычайна ён вывешвае нацыянальны сцяг у Лёзна на 40-метровай трубе райбыткамбіната. Праўда, цяпер гэта рабіць больш складана, бо тэрыторыя камбіната ахоўваецца, а злашчасная труба ўначы асвятляецца. Акрамя таго, з гэтай трубы па загадзе мясцовых уладаў былі зрэзаныя скобы да 8-метровай вышыні. Думалі, што Мірона гэта спыніць. Аднак памыліліся. 22 снежня над Лёзна зноў з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг. Гэтым разам Мірон прысвяціў сваю акцыю дню нараджэння Сталіна і 80-м угодкам ВЧК.

У лісце Зянона Пазьняка, які надрукавала гродзенская газета «Пагоня», Мірон называецца Чалавекам 1997 года. *«Уздымаючы беларускі сцяг на недасягальную вышыню, ён выдатна прадэманстраваў рэжыму і ўсяму грамадству, што Беларусь жыве і пераможа*, — піша Пазьняк. — *Вось прыклад эфектыўнай барацьбы аднаго змагара. Гэта не жарты. Па ўзроўні ўздзеяння на свядомасць беларусаў Мірон зрабіў больш, чым уся так званая «агульная» беларуская партыйная дэмакратыя, разам узятая»*, — лічыць лідэр БНФ.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

ДАГЕРРОТИП

# Заговор по бизнес-плану

**Семен БУКЧИН**

Правителю небольшой восточноевропейской страны было скучно. И тогда он вызвал своего секретаря Совета безопасности Шмушкиса.

— Слушай, Шмушкис, что-то оппозиция наша совсем сдохла? Ни митингов, ни демонстраций? Они что там, самораспустились, что ли?

— Так мы ж их придавили, ваше величество! Пикнуть не смеют! Опять же Зенон за границей прохлаждается... А без него некому. Кадры слабые.

— Это плохо! — воскликнул правитель. — Это никуда не годится! А кто будет бороться со мной? Ты ведь знаешь — я без борьбы не могу!

— Да они там все перепугались! — махнул рукой секретарь Совета безопасности. — Куда им, бедолагам? Наши службы слушают их телефонные переговоры, следят за ними, а ведь никакой активности не наблюдается... Чуть живут.

Правитель немного подумал и сказал:

— Надо помочь им. По-государственному подойти. Может, специальное министерство создать, по делам оппозиции? Человека хорошего на должность министра подобрать?

Шмушкис обиженно поджал губы.

— Обижаете, ваше величество? А наши службы на что? Мы же ими, оппозицией, и занимаемся.

— Да не о том я! — раздраженно крикнул правитель. — Вы ведь только слежкой и прочими гадостями занимаетесь! А я о конструктивном подходе говорю. Неужели вы не видите? Народ скучает, цены растут, доллар к лету на сто тысяч наших рублей потянет. Нужно, как говаривал один мудрый человек, в обществе судорогу пустить. Чтоб вздрогнули! Чтоб про все на свете забыли! И про цены и про жизнь свою поганую...

— Можем еще парочку независимых газет прикрыть, — нерешительно проговорил Шмушкис.

— Да было уже это! Одну закроешь — они другую открывают. Да и народ этим не удивишь... Большое дело нужно, Шмушкис, большое!

— Может, еще какого министра посадить или банкира? Мы это мигом!

— Мелко, мелко мыслишь, Шмушкис! — все более раздражался правитель. — Масштаба у тебя нет!

— Неужто, ваше величество, думаете о чем-нибудь вроде сталинских процессов над врагами народа? — ахнул Шмушкис.

— Вот-вот, — одобрительно кивнул правитель. — Уже горячее. Ну не то чтобы совсем уж... До великого Сталина вряд ли кто сегодня может дотянуться. Но стараться надо. В смысле глобального подхода к проблеме.

Шмушкис вытянулся в струнку.

— Сегодня же, ваше величество, всю оппозицию заарестуем в столице. И на Лубянку... То есть в нашу «американку». А там наши ребята с ними как следует поработают, после чего они даже в сотрудничестве с разведкой Мозамбика признаются. А Зенона ледорубом уговорим... Как Троцкого...

— Ну ты совсем сдурел, Шмушкис, — укоризненно сказал правитель. — Не понимаешь, в какое время живешь? Сегодня ведь ничего не делается без бизнес-плана. Соображаешь?

***

Через два часа секретарь Совета безопасности снова был у правителя. Гордо положил на стол бумаги.

— Бизнес-план, ваше величество. Только он не наш, а как бы ихний, оппозиционный, только нами подготовленный.

— Поглядим, — ворчал правитель, углубляясь в бумаги. — Так... «Бизнес-план по свержению всенародно избранного и горячо любимого широчайшими массами правителя». Да разве ж они, враги мои, могут так писать? Всенародно избранного, горячо любимого... У них должно быть — ненавистного диктатора и узурпатора...

— Да ведь неудобно, — замялся Шмушкис. — Такие нехорошие слова...

— Лизоблюдов не терплю! — гаркнул правитель. — Все должно быть как в жизни!

— Виноват! — затрепетал Шмушкис. — Сей же час исправим, ваше величество!

— А это что у тебя такое? — правитель ткнул пальцем в бумагу. — На митинги и демонстрации пять тысяч долларов?

— Так у них всего пять тысяч человек и ходит. Дадим каждому по доллару, они с радостью и пойдут.

Правитель зарычал от негодования:

— Что это за митинг против меня за доллар? Да это оскорбление моего достоинства! Дать каждому по тысяче долларов и не меньше!

— Слушаюсь!

— Так... «На командировочные расходы по связям с враждебным Западом...», — прочитал правитель.

— С дружественным! — вставил Шмушкис.

— Быстро сечешь! — довольно ухмыльнулся правитель. — Только опять жмотствуешь. Что это за деньги — сто тысяч долларов? Пять миллионов! Как минимум!

— Да ведь из бюджета, — охнул Шмушкис. — Хотели сэкономить...

— Не из твоего бюджета! Из моего! — отрезал правитель. — И персональные премии ведущим оппозиционерам зажал. Всего по десять тысяч долларов! Да кто за такие деньги меня свергать пойдет? Я сам бы не пошел... По десять миллионов каждому!

Шмушкис побелел.

— Не делайте этого, ваше величество! — в отчаянии закричал он. — Вы подвергаете себя серьезной опасности!

— Что такое?

— Боюсь, ваше величество, что за такие деньги на сторону оппозиции перейдут даже самые верные и стойкие ваши сотрудники, — запинаясь пробормотал Шмушкис.

— Тем лучше! Будет возможность проверить кадры! А это что у тебя за графа — «Сионисты»?

Шмушкис решительно выпятил подбородок.

— Без сионистов, ваше величество никак нельзя! Они обязательно должны быть во всяком заговоре!

— То-то я смотрю, ты на них пятьдесят миллионов отвел, — с сомнением произнес правитель. — Не многовато ли? А на сексуальное разложение народа явно пожалел. Всего десять миллионов... Нехорошо... Опять же на наркотики убавил, только восемь миллионов...

— Подкорректируем, ваше величество! — заверил Шмушкис.

— Да чего там, — уныло протянул правитель. — Я ведь знаю, все равно украдете. А ведь это деньги на святое дело. Из кармана налогоплательщиков взятые. Народные, можно сказать, деньги. Да уж ладно... Когда будете корректировать, графу с сионистами еще раз обмозгуйте... Может, в самом деле прибавить? Впрочем, у тебя, Шмушкис, тоже фамилия подозрительная... Кому верить?..

# падзяліся з дзяржавай

прыклад, падчас прэзентацыі якой-небудзь фірмы або, скажам, падарунак падначаленых на юбілей шэфа).

Не трэба падаваць дэкларацыю ў наступных выпадках: калі вы мелі даход толькі з аднаго месца працы; калі вы памянялі месца асноўнай працы, але пры гэтым не мелі іншых крыніц даходу; калі ваш сукупны гадавы даход не перавысіў 19,4 млн. рублёў. Пенсіянеры і студэнты, калі яны працуюць толькі ў адным месцы, не павінны здаваць дэкларацыю: пенсіі і стыпендыі падаткам не абкладаюцца.

Абавязкова падаюць дэкларацыю тыя, хто жыве з прадпрымальніцкай дзейнасці, — незалежна ад памеру даходаў.

## Куды падаваць дэкларацыю

Каб атрымаць бланк дэкларацыі, неабходна наведаць раённую падатковую інспекцыю па месцы жыхарства. Там ёсць спецыяльныя аддзелы дэкларавання, супрацоўнікі якіх бясплатна прысвояць грамадзяніну так званы «уліковы нумар падаткаплацельшчыка», выдадуць бланк дэкларацыі, растлумачаць, як яна запаўняецца. Заўважце: калі ў вас ёсць нейкія цяжкасці, інспектар абавязаны прадаставіць звесткі аб вашых даходах, якія ёсць у інспекцыі.

Да запоўненай дэкларацыі неабходна прыкласці шэраг дакументаў. Па-першае, гэта даведкі з асноўнага і дадатковага месцаў працы аб даходах і ўтрыманых з іх падатках. Акрамя таго, калі вы маеце права на льготы па падаходным падатку (такая льгота распаўсюджваецца на «чарнобыльцаў», ветэранаў вайны, бацькоў шматдзетных сем'яў і інш.), вам трэба прынесці ў інспекцыю адпаведны дакумент.

## Калі плаціць

Падаць дэкларацыю неабходна не пазней за 15 лютага 1998 года.

Людзі паціху ўжо ідуць у свае раённыя падатковыя інспекцыі, але пераважна на кансультацыю. У Мінску дэкларацыі пакуль што падалі каля 500 чалавек. Каб справіцца з наплывам кліентаў бліжэй да канца тэрміну, падатковыя канторы плануюць працаваць да 20:00, а таксама ў выходныя дні.

Заплаціць разлічаны падатак трэба самастойна да 15 сакавіка: гэты тэрмін канчатковы, пры спазненні давядзецца аддаць больш.

## Пакаранні

Калі вы не падалі дэкларацыю — падатковая інспекцыя вышле вам поштай паведамленне і патрабаванне заплаціць падатак, разлічаны без вашага ўдзелу. Падаўшы дэкларацыю пасля гэтага, вы можаце дамагчыся змяншэння сумы падатку, але давядзецца заплаціць 10% кары. Акрамя таго, за парушэнне тэрмінаў дэкларавання можа быць накладзены штраф ад 2 да 5 мінімальных заробкаў.

Не заплаціўшы падатак у тэрмін, грамадзянін павінен будзе аплачваць яшчэ і пеню за кожны дзень пратэрміноўкі. Дарэчы, тэрміну даўнасці па падатковых плацяжах няма: і праз месяц, і праз год абавязак заплаціць застанецца ў сіле, толькі сума з кожным днём будзе расці.

Ніякіх памылак інспекцыя не даруе. Нават калі вы сапраўды нешта забыліся і запісалі меншую суму ў дэкларацыі — гэта будзе разглядацца як укрыванне даходу і ўсю незапісаную суму плюс штрафы забяруць у бюджэт. Схаваць нейкую легальную крыніцу даходу, лічаць інспектары, немагчыма: кожная бухгалтэрыя абавязкова перадае адпаведныя звесткі па месцы жыхарства атрымальніка грошай.

Супраць «злосных неплацельшчыкаў» падатковыя органы будуць звяртацца ў суд. Тады грошы будуць вылічаныя з заробку альбо спагнаныя за кошт продажу апісанай маёмасці.

## Сумненні

Самае цікавае, што ўсё гэтае дэклараванне і падаткаабкладанне сукупнай сумы гадавога даходу выглядае не зусім законна з боку закона. Падаткаабкладанне з сукупнай сумы гадавога даходу ўведзена згодна з «Законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год». Аднак такі разавы, часовы закон, на думку некаторых юрыстаў, не можа ўстанаўліваць правілы падаткаабкладання: яны павінны прымацца спецыяльнымі заканадаўчымі актамі. Да таго ж закон быў прыняты 21 лютага 1997 года, а тычыцца даходаў з пачатку года. Фактычна закон уведзены «заднім чыслом», што забаронена Канстытуцыяй.

Тым не менш разлічваць на адмену новага парадку падаткаабкладання не даводзіцца. Гэтая праблема непасрэдна датычыць многіх, але актыўна адрэагавалі толькі прыватныя прадпрымальнікі на рынках і правялі папераджальны страйк. Але малаверагодна, што знойдзецца палітычная сіла, якая арганізуе пратэст непрадпрымальнікаў.

Зрэшты, дэклараванне сукупнага гадавога даходу — нармальная практыка, якая існуе ў розных краінах, яна павышае адказнасць грамадзяніна перад дзяржавай. Але ж неабходны і адваротны працэс — адказнасці дзяржавы перад падаткаплацельшчыкам. Пакуль жа ў Беларусі вельмі мала хто думае як француз або амерыканец: «А за што я плачу свае падаткі?» І яшчэ цяжэй уявіць беларускага чыноўніка, які будзе ўспрымаць гэта як аргумент.

**Алесь САДОЎСКІ**
**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



**СВАБОДА—НАВІНЫ ў Internet:**
**http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/**

# Каждый мнит себя стратегом, видя бой со стороны

**Юрий ХОДЫКО**

Честно признаюсь, я не проявлял «весьма нервной реакции» на статью А.Старикевича «Тусовка», опубликованную в «Свабодзе» в ноябре прошлого года, посчитав ее проявлением юношеской горячности и недостаточной информированности из-за удаленности автора от места критикуемых им процессов. Однако его последняя публикация «Ставка на проигрыш» («Навіны» №1) заставляет меня вступить в полемику с А.Старикевичем (тем более, что я являюсь одним из героев «Ставки»).

А.Старикевич в своей статье выделяет два тезиса: *«Ставка на «объединенную оппозицию» — это ставка на проигрыш»*. А также: *«правый» и «левый» политики еще могут найти общий язык, «правый» и «левый» избиратели — никогда»*. К сожалению, оба тезиса неверные. Например, не ответит А.Старикевич на вопрос — правые или левые избиратели проголосовали за А.Лукашенко в 1994 году. Однако, начнем по порядку.

К сожалению, в Беларуси нет «объединенной» оппозиции. Поскольку в самом определении корень «един» предполагал бы единый центр, единые структуры, одного кандидата в президенты. У нас есть «широкая» оппозиция, которую объединяет, прав С.Калякин, согласие восстановить действие Конституции 1994г. А это означает восстановить гарантированные ею права и свободы граждан, попираемые режимом А.Лукашенко, восстановить разделение законодательной, исполнительной и судебной власти, остановить, наконец, попытки ликвидировать провозглашенную Конституцией независимость Республики Беларусь. Более того, имеется высокая степень согласия относительно ликвидации поста президента вообще или придания ему только представительных и арбитражных функций. В остальном партии, входящие в «широкую» оппозицию, придерживаются достаточно различных взглядов — и на характер социально-экономических преобразований, и на темпы реформ, и на приоритеты международной политики Беларуси, и многое другое. Но все согласны в том, что разрешение этих проблем должно происходить в правовом поле, на основе единственно легитимной сегодня Конституции.

Много этого или мало? Ответ на этот вопрос не только проводит грань между оптимистами и пессимистами. Но и между ответственными и безответственными политиками. Совершенно очевидно, что никакая «объединенная», но более узкая оппозиция, а тем более усилия одной партии не могут в сложившейся ситуации привести к победе над режимом. Тот, кто думает иначе, либо страдает повышенным самомнением, либо не владеет информацией.

Действительно, существует только три варианта ликвидации диктатуры. Первый: ненасильственное восстановление действия Конституции-94. Возвращение законодательных полномочий Верховного Совета XIII созыва. Давление на него со стороны «улицы» и непарламентских партий с тем, чтобы он принял необходимые конституционные



*На снимке: Юрий Ходыко и Семен Шарецкий.*

поправки. Путем ли довыборов, референдума или собственного решения — безразлично. Этот вариант самый мягкий, но и самый трудный.

Второй вариант — социальный взрыв. Взрыв парового котла тем сильнее, чем прочнее его стенки. Диктатура и всевластие одного человека создают такие условия, когда обнищание населения и ненаходящий выхода протест могут привести к такой силе социального напряжения и недовольства, что люди выйдут на улицу без призыва партий и без их руководства. Тогда мы получим не «бархатную» или «поющую» революцию, а бунт «бессмысленный и беспощадный». Он, конечно, сметет диктатуру. Но в условиях отсутствия «широкой» оппозиции и координации ее усилий к власти придут клевреты существующего режима, как это было в Румынии.

Опыт 1991 г. показывает, что взять под контроль стихийный протест значительно труднее, чем спровоцировать беспорядки. Я горжусь тем, что БНФ — единственная в то время оппозиционная сила избежала искушения «бунта», ибо наша цель не в захвате власти, а в завоевании доверия и сознательной поддержке белорусского народа. Дом независимой демократической Беларуси только тогда выдержит все испытания, если будет построен на этом прочном фундаменте.

Поэтому А.Старикевичу должно быть стыдно упрекать профессора и академика С.Шарецкого за то, что он *«порой участвует в уличных акциях протеста»*, и приписывать ему вину в том, что *«колонны демонстрантов значительно поредели»*. Хорошо моему оппонёнту ощущать себя патриотом от рождения. Но для людей старшего поколения этот процесс часто является мучительным и извилистым и сопровождается ошибками. Нельзя ставить им это в вину, ибо их осознание национальной идеи и создает тот самый прочный фундамент для независимости Беларуси.

Ригористическая, бескомпромиссная позиция А.Старикевича заставляет вспомнить слова Христа: «кто без вины — пусть первый бросит в нее камень». Эти слова он сказал, когда к нему на суд фарисеи привели грешницу. Сказал и опустил голову. А подняв ее, увидел только женщину и напутствовал ее словами: «иди и не греши более». И моя цель, чтобы сказать А.Старикевичу — патриоту «от молока матери», — что он совершает куда более непростительные ошибки, сея раздор в рядах оппозиции, чем цитируемое им высказывание С.Шарецкого весной 1996 г.

Неужели уважаемый оппонент хочет, чтобы наша и без того недостаточно «объединенная» оппозиция вместо борьбы с диктатурой занялась сведением счетов и выяснением, кто больше сделал ошибок? Чтобы С.Шарецкий, например, напомнил В.Гончару (фигуру которого А.Старикевич противопоставляет спикеру), что тот не только допускал высказывания против оппозиции БНФ, но и просто был в команде А.Лукашенко? Или, чтобы Н.Статкевич

***<u>Ю.Ходыко:</u> Ради достижения благородной цели я согласен сотрудничать и с «красными», и с «малиновыми»***

предъявил претензии С.Богданкевичу за то, что критические слова, сказанные им в узком кругу «междусобойчика», стали известны А.Старикевичу? Упаси нас Боже от такого развития событий и от такой помощи независимых журналистов. Потому что такая «помощь», если и является помощью, то только режиму А.Лукашенко.

И уж подлинным шедевром «профессиональной этики» является высказывание А.Старикевича относительно карательных мер администрации А.Лукашенко. *«Штрафы на них* (депутатов ВС, сохранивших верность Конституции-94) *иногда накладывают, что неприятно, но в общем несмертельно»*. Позволю себе сообщить Старикевичу, что штрафы, накладываемые на участников оппозиционных манифестаций и; в первую очередь, на депутатов, равны десятимесячной средней заработной плате в Беларуси. Подавляющее большинство оштрафованных имеют семьи и доход, незначительно отличающийся от среднестатистического. Поэтому, не будь пожертвований в фонд помощи жертвам политических репрессий, эти штрафы вполне могли быть смертельными. Режим это прекрасно осознает и направляет свои «точечные удары уголовными делами» и непомерными штрафами не столько по З.Пазьняку и В.Гончару, как считает А.Старикевич, сколько по тем депутатам, которых он пренебрежительно списывает на свалку истории.

Естественно, что репрессии обрушиваются не только на депутатов, но и на активистов оппозиционных партий. Их нельзя противопоставлять, ибо недепутаты еще менее защищены законом. Но особая «любовь» А.Лукашенко к народным избранникам проявляется хотя бы в том, что после манифестации 23 ноября прошлого года из одиннадцати привлеченных к суду семь оказались депутатами.

Поэтому глубоко ошибочна мысль, проходящая красной нитью через всю статью А.Старикевича, будто бы поддержка легитимной части Верховного Совета, что является задачей «широкой» оппозиции, — это «ставка на проигрыш». В связи с этим позволю себе достаточно пространную цитату из письма Валентина Филистовича, пришедшего в штаб-квартиру БНФ задолго до статьи Старикевича и до «разоблачений» Зимовского. Автор письма задает вопрос — есть ли оппозиция в Беларуси? И отвечает:

*«Да, есть! Во-первых, об этом говорит сам президент. Нет оснований ему не доверять, ибо в каждое свое выступление он обязательно вкрапливает часть проклятий, адресованных ей.*

*Во-вторых, все провалы на международной арене главный рупор и «обожатель» президента — И.Антонович списывает на оппозицию. Это какую же силу надо иметь, чтобы без такого мощнейшего аппарата, который имеется у г-на Антоновича, «переиграть» его за пределами Беларуси? Причем, хотелось бы обратить внимание г-на Антоновича, что никто из оппозиционеров не клевещет на родной белорусский народ. Народ ни при чем, он — жертва режима и произвола, развязанного этим самым режимом.*

*В-третьих, глупые «утки», вылетая из окружения белорусского президента, «крякают» с трибуны российской Госдумы о том, что белорусская оппозиция готовит какие-то страшные вещи, и причем на деньги ЦРУ. Существование белорусской оппозиции настолько очевидно, что попытки ее удушения предпринимаются не только внутри Беларуси, но и в уважающей наш суверенитет России...*

*Помните заявление по поводу того, что такой оппозиции, которая есть сегодня у нас, он, Лукашенко, готов даже приплачивать. Я нахожусь в оппозиции. Где деньги?*

*Нет их. Тогда возникает вопрос — кому из оппозиции господин президент и его верный «друг Санчо» — господин Шейман — платят, и если платят, то за что?*

*А ведь, похоже, платят! Потому что оппозиция стала той костью, которой режим поперхнулся и которая стала поперек горла. Вот и не жалеют ни сил, ни средств на то, чтобы удалить ее».*

Прошу прощения у Валентина Филистовича, что цитирую его письмо, не спросив разрешения. Но он оказался настоящим провидцем, правильно оценив и роль оппозиции, и ее заслуги и предсказав методы борьбы режима с нею. И смысл его письма совсем не соответствует похоронному тону статьи А.Старикевича. Более того, он указал еще на один немаловажный фактор в белорусской политике, который заставляет меня вернуться к теоретическим вариантам вероятного развития событий.

Третий, возможно самый неприятный, вариант устранения диктатуры можно условно назвать «дворцовый переворот». То, что Лукашенко сажает в тюрьмы назначенных им же министров, то, что из его предвыборной команды ушла большая часть ее активных участников, хорошо известно. То, что он подавляет инициативу и бесцеремонно обращается со своим ближайшим окружением, предписывает и дает указания специалистам более высокой квалификации, чем он сам, — это тоже не секрет. Не может нравится его окружению и бесконечный аврал и бесконечные проверки. Наконец, не могут верить они и липовой статистике о росте благосостояния. Значит, они должны понимать, что режим исчерпал свои возможности и при своем крушении может затянуть их в водоворот хаоса, поставить перед необходимостью реально отвечать за результаты правления Лукашенко.

Выход для этого окружения — один. Своевременно убрать диктатора, но сохранить власть. Сделать это можно (учитывая характер режима) только с помощью Москвы, которая одна контролирует реальные рычаги власти А.Лукашенко — экономические, политические и даже силовые. Но в Москве идет ожесточенная борьба за власть и необязательно, что верх возьмут единомышленники нашего президента. В этом случае Москве будет нужна Беларусь, но без Лукашенко. И она будет выбирать ему преемника как из рядов скрытой, так и открытой оппозиции.

Вариант «дворцового переворота» — самый неприятный, ибо в этом случае от решения судьбы Беларуси могут быть полностью отстранены ее демократические силы. Однако, рыночникам в Москве может не подойти никто из ближайшего окружения президента. Тогда они будут искать ему замену из рядов «широкой» оппозиции, что и оправдывает ее существование, если мы не хотим отдать судьбу родины на волю случая.

К сожалению, или к радости, А.Старикевич, весьма негативно оценив деятельность оппозиции, не смог практически ничего предложить взамен. Если не считать его намека на то, что она — сегодняшняя оппозиция — мешает появлению «гораздо более дееспособной и агрессивной». Готов немедленно принести извинения этой неизвестной пока мне оппозиции и просить поскорее проявить свою дееспособность и агрессивность.

Наконец, было бы непристойным и неуважительным не ответить и на критику в мой адрес. *«Случилось это* (образование широкой оппозиции), — пишет А.Старикевич, — *в основном благодаря Юрию Ходыко, который в пику находящемуся в США Зенону Пазьняку готов подружиться хоть с красными, хоть с малиновыми»*. Хочу заверить уважаемого оппонента, что, несмотря на свое влияние, я не тот человек, который может навязать свое мнение всему БНФ. Слава Богу, что все важнейшие решения как по стратегическим, так и тактическим вопросам принимаются у нас коллективно. Ничего не делал я и «в пику» Зенону Пазьняку, который в своих посланиях Сойму БНФ неоднократно высказывался в пользу объединения усилий в борьбе с диктатурой и особенно подчеркивал роль легитимной части Верховного Совета, его Президиума и С.Шарецкого.

В чем безусловно прав Старикевич — я действительно всегда выступал как сторонник «широкой» оппозиции и старался сгладить возникающие время от времени недоразумения. Так, чтобы деревья не мешали видеть лес. Чтобы расхождения по частным вопросам, которые не затрагивают принципиальной основы сотрудничества, а именно будущего Беларуси как «независимого демократического государства», не превращались в повод для раскола и вражды между оппозиционными режиму силами. И я согласен для достижения этой благородной цели сотрудничать и с «красными», и с «малиновыми». Как говорит пословица, «назвался груздем — полезай в кузов!».

Если бы талантливый журналист Александр Старикевич критиковал оппозицию за то, что она широкая, но не объединенная. Или, признавая невозможность объединения, требовал большего единства и координации разумных усилий. То я, безусловно, с ним бы согласился. Можно было бы спорить только о том, что считать разумным. Но он, к сожалению, делает наоборот. Сея разумное, доброе, вечное, следует время от времени заглядывать в кош, чтобы вместо зерна не рассеивать зубы дракона. Из них, как утверждает греческий миф, вырастают полчища драконов.

# Станкевіча не аддадуць Расіі

**У аўторак апеляцыйны суд у Варшаве нарэшце вынес канчатковае рашэнне: былы дарадца прэзідэнта РФ Сяргей Станкевіч не будзе выдадзены расійскаму боку.**

Нагадаем, што паўтара месяца таму суд ужо прызнаваў выдачу Станкевіча «юрыдычна недапушчальнай», пасля пракуратура вынесла пратэст — і вось нарэшце апеляцыйны суд пасля доўгага разгляду пастанову апошнюю кропку: экстрадыцыі не будзе.

У Расіі Станкевіча абвінавачваюць у атрыманні хабару — 10 тысяч долараў. У Генеральнай пракуратуры РФ паведамлення аб вердыкце суда Варшавы ўспрынялі без аптымізму: расійскія праваахоўныя органы не разлічвалі на такі вынік справы. Раней расійскі генпракурор Ю.Скуратаў неаднаразова падкрэсліваў, што польскі суд не павінен разглядаць доказы віны Станкевіча — аднак у Польшчы, мяркуючы па ўсім, думаюць іначай.

Гэты выпадак стварае пакаральны юрыдычны прэцэдэнт, які можа паўплываць і на лёс вядомага беларускага бізнесмена Аляксандра Пупейкі. Прэзідэнта фірмы «Пушэ» А.Пупейку, як вядома, польскія праваахоўныя органы арыштавалі ў сярэдзіне снежня па просьбе беларускага боку: ён абвінавачваецца ў невяртанні банкаўскіх крэдытаў. Нядаўна тэрмін утрымання пад наглядам у Польшчы быў падоўжаны да 12 сакавіка — за гэты час павінна быць прынятае канчатковае рашэнне аб выдачы або нявыдачы А.Пупейкі. Прыклад з С.Станкевічам паказвае, што польская Феміда вельмі ўважлівая і адказна ставіцца да падобных пытанняў.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Демократическая Россия или феодальная Московия?

**В России до сих пор налицо последствия татаро-монгольского ига и крепостного права.**

*«Возможно, вам покажется странным этот мой вывод,* — пишет обозреватель американского информационного агентства Джеймс Мик, — *но в России отношения работника и нанимателя строятся по феодальному типу. Права и реальные возможности работодателя неограниченны, а зарплату работникам выдают как подачку».*

Особенное возмущение аналитика вызывает ситуация с постоянными задержками зарплаты в бюджетной сфере. С точки зрения американца, случись эта немыслимая ситуация на Западе, средства массовой информации всерьез занимались бы этой темой. Профсоюзы добивались бы объяснений и компенсаций, а политики разнесли бы виноватых в пух и прах. В России же кардинально иная ситуация: вместо бунтов и массовых выступлений люди погружаются в отчаяние и прибегают к таким малоэффективным мерам, как голодовки и перекрытие движения на автомобильных или железных дорогах.

*«Странно,* — считает Джеймс Мик, — *в России, похоже, относятся к невыплатам зарплаты, как к неконтролируемому стихийному бедствию типа наводнения или засухи, хотя совершенно очевидно, что деньги нагло крадут. Будет ли гнев людей таким же мощным, как их долготерпение?»* — завершает риторическим вопросом свой материал американский обозреватель.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Немцы адступаюць

**Германія з насельніцтвам больш за 81 мільён чалавек была і застаецца самай вялікай краінай Еўропы, аднак немцаў не становіцца больш.**

За апошні год насельніцтва Германіі павялічылася ўсяго на 60.000 чалавек, прычым, паведамляе агенцтва *DPA*, прырост адбыўся выключна за кошт іншаземцаў, якія атрымалі ў ФРГ від на жыхарства. Ужо некалькі гадоў імігранты з'яўляюцца практычна адзіным фактарам росту. Самі ж немцы, апраўдваючыся цяжкім эканамічным становішчам, найчасцей маюць толькі адно дзіця ў сям'і. У выніку карэннае насельніцтва скарачаецца, а месца немцаў займаюць імігранты. Калі такая тэндэнцыя захаваецца, то неўзабаве дамінаваць у Германіі будуць туркі, албанцы, сербы, італьянцы і палякі.

# 32 гады для прэзідэнта — не тэрмін

**Сённяшні прэзідэнт Інданэзіі Сухарта яшчэ не стаміўся кіраваць сваёй краінай.**

Сухарта стаіць на чале дзяржавы ўжо 32 гады. Ён чалавек немалады, яму ўжо 76, у яго сур'ёзныя праблемы са здароўем, але ён прыняў прапанову кіраўніцтва правячай партыі Голкар балатавацца на пасаду прэзідэнта яшчэ раз. Апазіцыя лічыць, што Сухарта ўжо не падыходзіць на ролю лідэра адной з самых густанаселеных краін свету, але публіка думае іначай — апытанні грамадскай думкі паказалі, што большасць выбаршчыкаў за сённяшняга прэзідэнта. Выбары адбудуцца ў сярэдзіне сакавіка, у Інданэзіі прэзідэнта тэрмінам на пяць гадоў выбірае спецыяльная асамблея з 1.000 чалавек.

# Куміры бразільскіх вайскоўцаў

**Афіцыйныя апытанні паказалі, што ідэалам для абсалютнай большасці бразільскіх салдат і афіцэраў з'яўляецца Адольф Гітлер.**

На думку вайскоўцаў, ягоная мэтанакіраванасць, аратарскае майстэрства і воля да перамогі заслугоўваюць ухвалы і пераймання. На думку экспертаў, гэта не сведчыць пра росквіт неанацызму ў арміі, бо іншыя куміры бразільскіх вайскоўцаў не маюць нічога агульнага з фашызмам: у рэйтынгу папулярнасці на другім месцы стаяць гоншчык Формулы-1 Айртан Сена і — гераіня Французскай рэвалюцыі Жанна д'Арк.

# Не хочаце выкурыць кубачак кавы?

**Некаторыя вытворцы цыгарэтаў шукаюць, як абысці забарону на рэкламу тытуню, — і знаходзяць арыгінальныя рашэнні.**

Цалкам магчыма, што рэклама тытунёвых вырабаў у краінах Еўрапейскага Саюза будзе цалкам забароненая. Канцэрн *British American Tobacco* вырашыў прапагандаваць сваю прадукцыю з дапамогай... рэкламы кавы. Ужо з'явілася ў продажы кава з маркай «Бэнсан энд Хэджэз» (*Benson & Hedges* — самыя папулярныя цыгарэты ў Брытаніі), а таксама адчыніў сетку невялікіх кафэ пад такой самай шыльдай. Разлік вельмі просты. У свядомасці многіх людзей, а асабліва курцоў, кава непасрэдна асацыюецца з цыгарэтай.

Цяпер канцэрн збіраецца выпусціць рэкламны ролік, у якім спартовага целаскладу хлопец заходзіць у кавярню «Бэнсан энд Хэджэз» — каб замовіць філіжанку кавы. А ў краінах, дзе рэклама тытуню не забароненая, ён яшчэ будзе даставаць з кішэні свае любімыя цыгарэты.

# Тэлефон на замку

**Кампаніі тэлефоннай сувязі ў Германіі стаміліся змагацца з самадзейнасцю сваіх кліентаў і сталі прапаноўваць паслугі, якія да гэтага часу былі катэгарычна забароненыя.**

Паводле нямецкіх законаў, хатні нумар тэлефона — прыватная ўласнасць чалавека, і ніхто не мае права яго ведаць без згоды гаспадара. Таму ўстаноўка апаратаў, якія вызначаюць нумар, разглядалася як незаконная. Аднак, нягледзячы на шматлікія забароны, немцы ўсё ж устанаўлівалі самаробныя (або прывезеныя з СНД) прыборы, што кепска ўплывала на работу тэлефонных сетак.

Кампаніі сувязі знайшлі кампрамісны варыянт: за некалькі марак у месяц яны прапануюць кліентам паслугу па вызначэнні нумара таго, хто да іх тэлефануе. А хто захоча — таму за дадатковыя некалькі марак у месяц на лінію павесяць своеасаблівы «замок», і ягоны нумар ужо не даведаецца ніхто. Хіба што спецслужбы — але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

# Рэкорд задорага каштуе

**Пяць гадоў таму Салем Джума Мубарак з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў паабяцаў, што ўстановіць рэкорд сваёй краіны і будзе бацькам 60 дзяцей. Сёння ён кажа, што перагнуў палку.**

50-гадовы Мубарак ужо мае 49 дзяцей ад 6 жонак. Ён працуе муэдзінам у мячэці — пяць разоў на дзень залазіць на высокі мінарэт і кліча прававерных мусульман на набажэнства. Ягоны заробак складае 4 тысячы долараў у месяц; тром былым жонкам, з якімі ён у разводзе, Мубарак плаціць аліменты, а для трох цяперашніх трымае асобныя дамы. Згадзіцеся, расходы немалыя.

Калі напрыканцы мінулага года ў яго нарадзілася дзіця, Мубарак прыйшоў да высновы, што ягоныя фінансавыя магчымасці канчаткова вычарпаныя. На новы шлюб грошай няма — і гэта аўтаматычна зніжае шанцы на дасягненне нацыянальнага рэкорду шматдзетнасці.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# С «большим соседом» играют по-крупному

*Новая балто-российская история*

## Латвия: благие намерения

История латвийско-российских отношений сложна, драматична и знает больше падений, чем взлетов. Положительные сдвиги последнего времени представляют собой скорее благие намерения, чем ощутимую реальность.

Россия признала независимость Латвии в 1991 году, но потом последовали годы непонимания и взаимных обвинений. Латвийские политики не смогли забыть годы советской оккупации, российские без устали твердили об «ущемлении прав русскоязычного населения» в Латвии. И хотя бизнесмены обеих стран сразу оценили все преимущества сотрудничества и принялись извлекать из него вполне конкретные выгоды, политики по инерции (или по природе своей) продолжали препираться.

Последним значительным результативным шагом был официальный визит в апреле 1994 года президента Латвии Гунтиса Улманиса в Российскую Федерацию. Этот визит способствовал подписанию пакета чрезвычайно важных документов и прежде всего о выводе из Латвии российской армии.

Потом были многочисленные встречи разнообразных государственных руководителей, успехи, проволочки, срывы... Но замечена закономерность: как только на латвийско-российском горизонте начинают рассеиваться тучи, тут же следует «грозное заявление» с той или иной стороны — и все усилия договаривающихся сторон идут насмарку. Совсем недавно Ельцин заявил, что хотел бы самых дружественных отношений с Латвией, и он уверен, что в процессе переговоров удастся подписать договор о границе и другие межгосударственные соглашения. В тот же день президент Латвии Г.Улманис, вернувшись из Соединенных Штатов, где он подписал Балто-американскую хартию, в очередной раз сказал, что «факт оккупации Латвии советскими войсками в 1940 году неоспорим».



***У аўторак у Рызе быў урачысты і жалобны дзень: Латвія ўспамінала падзеі студзеня 1991 года, калі Масква рукамі Рыжскага ОМОНа хацела скінуць урад Латвійскай Рэспублікі. Члены ўрада, парламента і Рыжскай думы ўскладалі кветкі да магіл патрыётаў, што загінулі ў тыя дні. Увечары ў Домскім саборы адбылося набажэнства, прысвечанае абаронцам латвійскай незалежнасці. Кіраўнік урада Латвіі Гунтар Крастс звярнуўся да латышоў усяго свету з прамовай праз камп'ютэрную сетку Internet. «Мы хацелі быць вольнымі. Мы сапраўды хацелі быць вольнымі. І мы дамагліся таго, чаго хацелі, — мы гаспадары сваёй будучыні», — сказаў прэм'ер-міністр Латвійскай Рэспублікі.***

## Литва: реальные шаги

Концептуальной идеей нынешних литовско-российских отношений является так называемая теория «моста» между Западом и Востоком, предполагающая при этом максимальную выгоду для Литвы.

Литва сумела за последние 4-5 лет принципиально изменить пропорции в торговом обороте между Востоком и Западом, и ее как нельзя более устраивает схема, когда с Запада ввозятся технологии и оборудование, а в Россию и другие страны СНГ уходит готовая продукция. Структура торговли за прошлый год именно такую картину и показывает.

Особое отношение к Литве со стороны России определяется несколькими факторами. Среди них немалую роль играет и наличие транзитного коридора через территорию Литвы в Калининградскую область. Не случайно Литва первой из Балтийских стран подписала с Россией договор о границе и получила режим наибольшего благоприятствования в торговле.

Между тем, сама Литва ведет себя по отношению к «большому соседу» сдержанно. Находясь у власти, левые во главе с А.Бразаускасом, опасаясь обвинений в симпатиях к Москве, не предприняли ровным счетом никаких шагов. Почувствовав это, консерваторы в ходе предвыборной борьбы попробовали разыграть «российскую карту», при этом в восточной политике консерваторов появился важный нюанс — ставка на региональное сотрудничество через Калининградскую область.

Литва, похоже, знает, как себя вести. Здесь как бы не слышат постоянных восклицаний московских деятелей вроде «без России они никуда не денутся». В Вильнюсе понимают, что в плане большой политики Литва важна для России ничуть не меньше (а может, даже и больше), чем наоборот. Поэтому Вильнюс позволил себе довольно холодно отреагировать на инициативы Ельцина о российских гарантиях безопасности для Литвы — но тем не менее ничего пока не свидетельствует об ухудшении отношений между государствами.

## Эстония: тайные стремления

В Эстонии ни для кого не секрет, что истинными авторами новой российской политики здешнего правительства стали не дипломаты, а бизнесмены. Именно представители крупного эстонского бизнеса первыми открыто заявили о том, что устали бороться с трудностями, которые возникают на их пути из-за неуклюжих действий политиков.

Интересы эстонских предпринимателей в России просты: ликвидировать двойные таможенные пошлины на свои товары и направить через таллиннские порты как можно больше российских грузов. В Москве не скрывают, что решение этих жизненно важных для Эстонии вопросов во многом зависит от политического климата.

Для лоббирования своих интересов элита эстонского бизнеса создала Ассоциацию крупных предпринимателей, директором которой стал бывший комсомольский работник с опытом работы в России Яак Саарнийт. В Москве эстонские предприниматели вежливо и по-деловому улыбаются, в Таллинне намекают политикам на свою роль в скорых парламентских выборах.

В отличие от своих предшественников, нынешний премьер-министр Эстонии Март Сийманн более гибок. Его правительство избегает резких выпадов в адрес Москвы, а новый пост министра по национальным отношениям призван продемонстрировать внимание к местным русским.

Москва вроде бы с пониманием и одобрением следит за этими переменами. Однако Эстония не намерена изменять взятый с самого начала курс на плотное сотрудничество с Европой и трансатлантическими структурами. И хотя Россия чувствует себя неудобно, когда ее настойчиво выпихивают с южного берега Балтийского моря, Москве придется мириться с этим.

*По материалам печати*

# Японская архітэктура для тых, хто ўмее чытаць па-англійску

На фотавыставе «Сучасная японская архітэктура. 1985—1996», што працуе ў Мінску, няма экскурсаводаў — ёсць падрабязныя тлумачэнні і каментарыі. Аднак, на жаль, усе тэксты — толькі на англійскай мове.

Калі вы не валодаеце англійскай, варта ўзброіцца слоўнікам ці прыхапіць з сабою перакладчыка, бо пазнаёміцца з архітэктурай Японіі апошняга дзесяцігоддзя сапраўды цікава, а разабрацца ў ёй без тлумачэнняў проста немагчыма. Дзесяткі фотаздымкаў і схемаў самым выгадным чынам адлюстроўваюць супертэхналагічную эканоміку Японіі, таксама як і экзатычную японскую культуру. Менавіта ў архітэктуры арганічна спалучаецца і першае, і другое. Фантастычныя формы хмарачосаў маюць адбітак традыцыйнага японскага разумення прыгажосці, а спецыфічныя збудаванні (напрыклад, домік для чайнай цырымоніі або японскі тэатр Но) уражваюць дарэчным і, можна сказаць, віртуозным выкарыстаннем сучасных будаўнічых матэрыялаў.

Выстава паказвае, што і еўрапейская культура аказвае пэўны ўплыў на свядомасць японцаў. Напрыклад, стваральнікі мастацкага музея ў горадзе Хірасіма (1988) свядома дамагаліся «сімбіёзу японскіх і еўрапейскіх матываў», а ў Токіо ў 1991 годзе быў узведзены шматфункцыянальны будынак паводле распрацовак савецкага канструктывіста Леанідава і малюнкаў італьянца Піранэзі (XVII ст.), прычым верхняя частка гэтай шматпавярхоўкі нагадвае старажытнагрэцкую калону — сапраўды, фантастычнае спалучэнне!




*Сціплы чорна-белы фасад у традыцыйным японскім стылі (на здымку злева) павінен ствараць кантраст са шматколернасцю таго, што чалавек убачыць усярэдзіне: гэта музей кафлі. А змяшэнне стыляў і эпох на фота справа адпавядае прызначэнню будынка: тут размяшчаюцца офісы, рэстаран, кінатэатр і карцінная галерэя.*

А зрэшты, нам, еўрапейцам, ніколі не разгадаць парадоксаў Краіны Узыходзячага Сонца. Рэзідэнцыя Імператара «Новае Фукіягэ» (1993) уражвае сціпласцю і строгасцю простакутных формаў, а паліцэйскі пастарунак у адным з раёнаў Токіо (1994), наадварот — мае складанае і вычварнае архітэктурнае вырашэнне. Сярод самых дзіўных аб'ектаў, пра якія расказвае выстава, таксама хрысціянскі храм на востраве Хакайда, пабудаваны ў 1988 г. У храме толькі тры жалезабетонныя сцяны, а замест алтара перад вачыма вернікаў адкрываецца азёрны лясны краявід. Так выражаецца ў сучаснай архітэктуры ўласцівае японцам захапленне прыгажосцю прыроды.

Выстава створаная Японскім фондам і Архітэктурным інстытутам Японіі. Прадстаўнічае журы адабрала самыя значныя збудаванні дзесяцігоддзя, каб па іх фатаграфіях, што цяпер будуць вандраваць па краінах Захаду, свет пазнаёміўся з сучаснай японскай архітэктурай. Тут прадстаўленыя аб'екты самага рознага прызначэння — ад шматпавярховых офісаў да сельскагаспадарчых пабудоў.

Цікава, што добрая чвэрць усяго, паказанага на выставе, — музеі. Ствараецца нават уражанне, што ў Японіі цяпер без суперсучаснага музея не можа абысціся ніводная вёска. Пры гэтым па форме музейныя будынкі могуць нагадваць што заўгодна: сялянскія хаткі, галубятні, трубаправоды і лятаючыя талеркі. Беларусам тут застаецца толькі пазайздросціць: мы нават у сне не прыснім такое фінансаванне культурных праектаў ды такую смеласць эксперыментаў.

Хоць выставачная зала Саюза архітэктараў (вул.К.Маркса, 14) гэтымі днямі не надта шматлюдная, усё ж трэба адзначыць, што японская архітэктура зацікавіла мінскую публіку. І паглядзець фотаздымкі прыходзяць сюды не толькі спецыялісты. Выстава будзе працаваць да канца студзеня.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

*Рок-каранацыя'97*

# Праз тыдзень будуць сюрпрызы

У наступны чацвер у сталічным кінатэатры «Масква» пройдзе ўжо традыцыйная імпрэза, якую арганізатары называюць фестывалем «Рок-каранацыя'97». Будуць вызначаныя найцікавейшыя падзеі ў свеце беларускага рок-н-рола за мінулы год, а лепшы беларускі гурт атрымае рок-карону.

Фестываль ладзіцца ўжо ў чацвёрты раз «Клас-клубам» і фірмай «Ковчег». У склад журы «Рок-каранацыі» ўваходзяць журналісты, якія пішуць пра музыку, прадстаўнікі кампаніяў шоў-бізнесу, спонсары. Члены журы запаўняюць анкеты, у якіх вызначаюць пераможцу па кожнай намінацыі. Сёлета гэтых намінацыяў дзевяць: «Лепшы гурт ці выканаўца», «Лепшы альбом», «Лепшая песня», «Адкрыццё года», «Традыцыі і сучаснасць», «Лепшы тэкст», «Рок-князёўна», «Лепшы відэакліп» і «Лепшы альтэрнатыўны праект». На сённяшні дзень ужо вядомая група лідэраў па кожнай намінацыі. Імёны пераможцаў будуць аб'яўленыя падчас цырымоніі ў наступны чацвер.

Напачатку «Рок-каранацыя» задумвалася як фестываль беларускамоўных рок-н-рольных камандаў і праходзіла ў пяці намінацыях: «Лепшы дэбют», «Лепшы альбом», «Лепшая песня», «Традыцыі і сучаснасць», а лепшым гуртом 1994 года была прызнаная «Крама» на чале з Ігарам Варашкевічам. Але ўжо ў наступным годзе фестываль адышоў ад «беларускай ідэі», і карону лепшага гурта атрымала *«Rouble Zone»* — такая сабе «Рублёвая зона», якая спявае толькі па-англійску. Летась выбар журы быў яшчэ больш дзіўным: многія толькі пасля «Рок-каранацыі» даведаліся, што «Ляпис Трубецкой» — гэта таксама рок.

Сёлета, у адрозненне ад мінулых гадоў, папярэдняе анкетаванне не паказала нейкага безумоўнага лідэра, і таму прадзюсер фестывалю Юрый Цыбін абяцае сюрпрызы: ён пакуль і сам не бярэцца прагназаваць, які гурт стане пераможцам. Не выключана, што ў спрэчных выпадках, калі ў адной намінацыі два ці нават тры гурты пароўну падзеляць галасы журы, то ўсё вырашаць гледачы цырымоніі. Так было ўжо летась пры вызначэнні лепшай песні, калі гледачоў папрасілі ацаніць кожную песню апладысментамі, а шумафон — апарат, які ацэньвае ўзровень шуму, — засведчыў, што грамчэй пляскалі ў ладкі прыхільнікі гурта *«N.R.M.»*, які і перамог са сваёй «Партызанскай» песняй.

На тытул лепшага рок-гурта сёлета прэтэндуюць «Нейро Дюбель», *«N.R.M.»*, «Палац», «Пані Хіда» і *«Hasta La Fillsta»*. У намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» за адданасць жанру чакаюць узнагароды «Крама», «Крыві», «Палац», «Троица» і «Уліс». А вось на месца шляхцянкі беларускай музыкі прэтэндуюць усяго тры салісткі: гэта Кася Камоцкая з «Новага Неба», Вераніка Круглова («Крыві») і Крыстына Мендзялеева (*«Hasta la Fillsta»*). Хто ж з іх стане рок-князёўнай і хто атрымае галоўную карону, мы абавязкова даведаемся.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Акварэлі са смакам добрага віна

**Міколу Бушчыку сёлета 50 гадоў. Для самога мастака гэта падстава, каб сабраць сяброў за святочным сталом, а для аматараў жывапісу — магчымасць яшчэ раз пабачыць ягоныя творы: сёлета ў Мінску пройдзе некалькі выставаў творчасці М.Бушчыка, першая з якіх ужо адчынілася ў бібліятэцы імя Янкі Купалы.**

Мікола Бушчык працуе і алейнымі фарбамі на палатне, і акварэльнымі на паперы. Нягледзячы на ўяўную сціпласць акварэлі, гэты мастак вельмі высока ацэньвае яе магчымасці: «Вы ніколі не адчуеце сябе самотна ў пакоі, дзе побач з вамі лье ў прастору сваё тонкае святло душа акварэлі», — узнёсла гаворыць ён. Выстава ў бібліятэцы Купалы якраз прадстаўляе акварэльныя творы мастака.

Перш за ўсё на гэтай выставе ўражвае інтэнсіўнасць колераў, якія ўжо самі па сабе вельмі прыгожыя. Спалучэнні чыстых і моцных жоўта-аранжавых, сіне-зялёных, чырвона-фіялетавых таноў выклікаюць надзвычай прыемнае зрокавае адчуванне, якое немагчыма перадаць на словах. Напэўна, пра такое ўражанне гаварыла Аліса з Краіны Цудаў: «Падобна на апельсінавы сок, смажаную качку з яблыкамі і салёныя гурочкі!» І яшчэ на добрае віно, — дадам я ад сябе, бо маленькая Аліса проста не магла зрабіць такога параўнання.

Але жывапісная прыгажосць — не адзіная вартасць акварэляў М.Бушчыка. Разглядаючы творы адзін за адным, пачынаеш бачыць суцэльную вобразную прастору выставы, у якой суіснуюць краявіды, постаці, чалавечыя перажыванні. Ад пейзажаў, якія даволі канкрэтна адлюстроўваюць рэчаіснасць, мастак пераходзіць да выражэння праз колеры абстрактных паняццяў — напрыклад, у работах «Мроі прысутнасці», «Сімвалічныя праявы» і іншыя. З'яўляюцца тут і людзі, але чалавечым вобразам мастак надае таямнічасць і абагуленасць, гэта вельмі адчувальна па творах нізкі «Збіральніцы зёлак». Выстава дае цікавую магчымасць паназіраць, як знікае мяжа паміж канкрэтна-вобразным і абстрактным мастацтвам.

Як сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ Мікола Бушчык, ён свядома адабраў для выставы шмат акварэляў (работы занялі не толькі выставачную залу, але і сцены прасторнага хола бібліятэкі). Мастак таксама распавёў, што менавіта ён і ягоныя сябры па суполцы «Няміга-17» пятнаццаць гадоў таму арганізавалі першую мастацкую выставу ў купалаўскай бібліятэцы. Тут ужо некалькі разоў экспанаваліся творы М.Бушчыка, а ўсяго гэты мастак удзельнічаў больш чым у 90 выставах у Беларусі і за мяжой. Сёлета, у год свайго юбілею, Мікола Бушчык пакажа свае работы таксама ў дзвюх сталічных выставачных залах — у галерэі «Мастацтва», што на праспекце Скарыны, і ў Палацы мастацтва.

На жаль, у газеце немагчыма надрукаваць рэпрадукцыі акварэляў М.Бушчыка — у гэтых творах галоўнае колеры, і чорна-белы фотаздымак не мае сілы перадаць іх хараство. Так што вельмі раю чытачам НАВІНАЎ завітаць на выставу, якая працуе да 12 лютага ў буднія дні, акрамя аўторка, з 11 да 18 гадзін па адрасе: вул.Веры Харужай, 16.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

АФІША

# Сланы прыехалі з Расіі

На гэтым тыдні ў Мінскім цырку пачынаюцца прадстаўленні новай праграмы, якая называецца «Усё могуць каралі» і, па традыцыі нашага цырка, прадстаўляе артыстаў з розных постсавецкіх рэспублік. На гэты раз забаўляць і здзіўляць публіку будуць беларуская гімнастка, латышскі ілюзіяніст, казахскія клоўны, асецінскія джыгіты. А галоўны нумар — «На сланах вакол свету» — прывезлі да нас цыркачы з Расіі. Квіткі ў цырк каштуюць ад 70 да 110 тысяч рублёў.

## ТЭАТРЫ

Сярод мінскіх тэатраў асаблівыя таварыскія пачуцці ў нас выклікае Тэатр беларускай драматургіі, што на вул. Крапоткіна, 44. У нас падобны лёс: нашая газета пад ціскам абставінаў памяняла назву — тэатру таксама давялося развітацца з гордым імем «Вольная сцэна». Тым не менш жыццё працягваецца, і на наступным тыдні ў Тэатры беларускай драматургіі пройдуць «Заложніца кахання» (24 студзеня), «Містэр Розыгрыш» (25-га), «Рычард» (27-га) і «Лекар паняволі» (29 студзеня).

Тэатр імя Янкі Купалы пакажа 23-га «Ідылію», 24-га — «Памінальную малітву». У нядзелю 25 студзеня тут пройдуць цэлыя тры імпрэзы: раніцай «Карлік Нос», увечары на Вялікай сцэне — «Касцюмер», а на Малой — «Чароўная ноч». 26 студзеня на купалаўскай сцэне — «Нежанаты мнагажэнец», 28-га — «Страсці па Аўдзею», 29-га — «Ажаніцца — не журыцца».

У Рускім тэатры 23-га — «Цяжкія людзі...», 24-га — «У прыцемках», 25-га раніцай — «Жылі-былі дурні», увечары — «Амфітрыён», 27-га — «На залатым возеры», 28-га — «Мадам, месье і...», 29-га — «Ад'ютант-Ша Яго Вялікасці».

Важная падзея ў Тэатры оперы і балета. 23 студзеня тут адбудзецца Вечар маладой беларускай харэаграфіі — свае работы прадставяць публіцы вучні мэтра нашага балета Валянціна Елізар'ева, выхаванцы Беларускай акадэміі музыкі. Беларуская опера запрашае 24 студзеня на «Чыо-Чыо-сан», 25-га тут будуць выконваць «Рэквіем» Вердзі», 27-га — «Рыгалета», 29-га — «Вяселле Фігара».

Тэатр-студыя кінаакцёра 23 і 24 студзеня пакажа «Міленькі ты мой», а 27-га — «Каханне смешнага чалавека». У Маладзёжным тэатры 23 студзеня глядзіце «Што такое каханне», 25-га — «Малышку Эліс».

Калектыў з трох акцёраў, аднаго прадзюсера ды яшчэ некалькіх прыслужнікаў тэатральнай музы пад сціплай назвай «Віртуозы сцэны» запрашаюць усіх жадаючых ацаніць імпрэзу пад назвай «Сублімацыя кахання». Па вызначэнні стваральнікаў, гэта прыгожая італьянская камедыя. Яна пройдзе 28 студзеня а 19-й гадзіне ў клубе імя Дзяржынскага, квіткі каштуюць 50 і 70 тысяч рублёў.

## КАНЦЭРТЫ

Канцэртная зала філармоніі чакае маленькіх меламанаў: 24 студзеня тут пройдзе сустрэча з юнымі кампазітарамі Беларусі, а 25-га адбудзецца канцэрт з цыкла «Музычныя падарожжы», які называецца «Яго Вялікасць Голас». Абедзве імпрэзы пачынаюцца а 16-й гадзіне. 29 студзеня ў Канцэртнай зале выступіць Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі пад кіраўніцтвам В.Дудкевіча.

У Зале камернай музыкі 23 студзеня прагучыць Арганная меса І.С.Баха ў выкананні К.Шарава і з тлумачэннямі музыказнаўцы В.Савіцкай. 26 і 27 студзеня тут пройдуць чарговыя канцэрты цыклу «Усе творы Бетховена для віяланчэлі і фартэпіяна», які задумалі і выконваюць вядомыя беларускія музыканты Алег Алоўнікаў і Юрый Гільдзюк. 29 студзеня ў Камерную залу варта завітаць аматарам рускай класікі XX стагоддзя: тут прагучыць праграма з вакальных твораў Шастаковіча, Пракоф'ева і Свірыдава на вершы Блока, Ахматавай і Цвятаевай.

28 студзеня а 19-й гадзіне ў Палацы культуры прафсаюзаў пачнецца канцэрт Галіны, Барыса і Юрыя, а таксама Каці Вайханскіх (менавіта так паведамляюць пра ўдзельнікаў афішы). Гэтае музычнае сямейства прадставіць сваім прыхільнікам новую работу — кампакт-дыск «Анінскія ночы». Кошт квіткаў — 70—90 тысяч рублёў.

## ГОСЦІ

23 і 24 студзеня а 19-й гадзіне ў канцэртнай зале «Мінск» будзе выступаць усенародны любімец Генадзь Хазанаў. Кошт квіткоў (якія, дарэчы, вельмі актыўна раскупляюцца) — ад 300 тысяч рублёў да 1 мільёна 300 тысяч.

На кароткія гастролі ў Мінск прыехаў Рускі драматычны тэатр з горада Уфы (Башкірыя). 23 і 24 студзеня можна пабачыць ягоны спектакль «Вашая сястра і палонніца», які распавядзе пра нешчаслівае жыццё Марыі Сцюарт. На сваёй афішы, відаць, апасаючыся пераборлівасці мінскай публікі (усё ж — сталіца СНД!), уфімцы даводзяць, што іхняя імпрэза — плён таксама сталічных, маскоўска-пецярбургскіх тэатральных дзеячаў. Паглядзець «Сястру і палонніцу» можна ў Доме афіцэраў, пачатак а 19-й гадзіне.

## БРЫТАНСКАЕ КІНО

У Палацы культуры прафсаюзаў праходзіць паказ выбітных брытанскіх кінакарцін, знятых у апошнія 10 гадоў. 26 студзеня а 19-й гадзіне можна пабачыць абсурдысцкую варыяцыю на тэму «Гамлета» пад назвай «Гільдэстэрн і Разенкранц мёртвыя» (1990). Гэты фільм быў адзначаны галоўным прызам Венецыянскага кінафестывалю. 27 студзеня а 19-й гадзіне пакажуць «Арланда» (1993). Гэтая экранізацыя рамана Вірджыніі Вульф па жанры — меладрама. У гэты ж дзень а 21-й пройдзе гістарычная драма «Генрых V» (1989), але, нягледзячы на высокую якасць карціны (між іншым, «Оскар» за касцюмы), ахвотных пабачыць яе будзе няшмат — фільм дэманструецца без перакладу і мае працягласць больш за 2 гадзіны.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

